*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 26(360)** **8 ЛІПЕНЯ 1998 г.**

## Чатыры тыдні ў чэрвені

*Прыватны агляд беларускіх СМІ*

*"Беларускі вечны рухавік" (Радыё "Свабода", 14.06.98г.)*

*"Беларускія раздарожжы" (цыкл С.Абламейкі на радыё "Свабода")*

*Публіцыстыка Зянона Пазьняка.*

*Беларусь і Украіна на посткаланіяльнай прасторы ("Фрагмент" 1' 98).*

Паўгода ў "НС" з'яўляюцца штомесячныя агляды прэсы. З гэткай нагоды закранаем сёння тое, што адбывалася на працягу і месяца, і паўгоддзя.

У чэрвені ёсць безумоўны інфармацыйны "хіт". Праўда, здаецца, толькі амерыканскае радыё "Свабода" паведаміла, што ў Менску пры падтрымцы ўладаў сабраныя два ўзоры машыны, што мусіць працаваць за кошт ваганняў гравітацыйнага поля Зямлі, таму мала хто гэта чуў, а шкада. Рухавік, вядома, не дзейнічае, але ці ў тым справа? Беларускі perpetuum mobile можа служыць знакам інтэлектуальнай атмасферы ў нашым краі, прэстыжу навукі і асветы. Ці вучаць чаму людзей гісторыі Каліостра, Распуціна і ім падобных?

Незвычайна. Хто цяпер можа быць пэўным, што ў сутарэннях, напрыклад, Нацыянальнага банка, пад заламі поўнымі камп'ютэрнай тэхнікі нехта не раздзьмухвае алхімічны агонь? Дракон кусае свой хвост, зялёны леў глытае сонца, П.Глоба дае парады, па радыё чулы голас са слязой гаворыць пра сумны лёс Яго Вялікасці Імператара Мікалая II.

У такой дзіўнай атмасферы прыемна ўзгадаць цыкл С. Абламейкі. Здавалася б, ідэя "Раздарожжаў" (альтэрнатывы ў гісторыі) належаць таму ж полю, што і вышэйпамянёныя з'явы. Сп. Абламейка робіць перадачы з павагай і да навуковай строгасці, і да лёгкасці ды займальнасці. Абраная ім форма дыялогаў моцна дапамагае зместу. Абламейка знаходзіць нейкі асаблівы вузельчык гісторыі і чалавека, разам з якім спрабуе яго расплесці. Дзіва, як шмат на Беларусі людзей, якіх можна распытаць пра нешта цікавае. Уражваюць грунтоўнасцю, прадуманасцю, узважанасцю каментары самога сп. Абламейкі, ягонае ўменне зрабіць ужытак з назапашаных навукамі звестак.

Гэтаксама кантрастуе са скаламучанай, замглёнай духоўнай атмасферай публіцыстыка Зянона Пазьняка. Нягледзячы на перашкоды, ён удзельнічае ў беларускім жыцці і па-ранейшаму цэльна трапляе ў балявыя кропкі грамадства. За паўгода надрукаваныя два артыкулы ("Атрутны дух", "Вяртанне БНР") і зараз цыкл пра Курапаты на "Свабодзе".

Лічу неабходным звярнуць увагу на стрыжнявыя ідэі твораў лідэра БНФ. Бо колькі б ні знаходзілі мы ў палітычных ініцыятывах Пазьняка памылак і фантазій, нельга аспрэчыць аднаго: ён беспамылкова і бязлітасна гаворыць праўду пра наша грамадства. У галоўным. Не памылкі палітычнага эмігранта выклікаюць гучныя пратэсты: на такія хібы адгукнуліся б смехам ці спачуваннем. Матывы нязгоды іншыя.

Схаванае за словам "Курапаты" (калі ўзяць жорсткасць і памеры здзекаў над людзьмі) ставіць савецкі народ побач з жыхарствам нацысцкай Нямеччыны, і гэта тым цяжэй, што нашы гвалтаўнікі і садысты ходзяць па сёння ў пашане, з ордэнамі, і мы, магчыма, вітаемся з імі на вуліцы. Як пагадзіцца, як паверыць? Не вераць. Каб супакоіцца, бэсцяць Пазьняка. Дзеля ўласнага дабрабыту варта пераадолець нянавісць да яго, але лягчэй, мусіць, вярблюду прайсці праз іголнае вушка.

Можа гэтым тлумачыцца, што не ўсе гатовыя несці свае думкі ў народныя гушчы. Аўтары квартальніка "Фрагменты", прысвечанага асэнсаванню лёсаў Украіны і Беларусі, так адгарадзіліся ад наваколля малым накладам, груваскім стылем, спецыфічнай тэрміналогіяй і да незразумелага самабытнай моваю, што трэба праўдзівага высілку, каб зразумець, што абмяркоўваюцца рэчы знаёмыя, простыя і цікавыя шырэйшым колам.

Я звяртаюся да чытачоў "НС": не спяшайцеся штурмаваць "Фрагменты", а таксама да аўтараў квартальніка: чаму б Вам, шаноўныя, не напісаць на гэтыя ж тэмы для "Нашага Слова"? З улікам аўдыторыі. "Зразумелы філосаф — ветлівы філосаф", — казаў Артэга - і - Гасэт. З кожнага перыяду сп. Дынько можна зрабіць артыкул. Выпрабуйце свае магчымасці. Запрашаем.

Л.Ж.

## Помнік Ларысе Геніюш



У газеце "Наша слова" №23 змешчаны артыкул пра ўзвядзенне помніка Ларысе Геніюш. Я таксама ўбачыўшы гэты бюст, падумала, што яго трэба паставіць у Гудзевічах, на духоўнай радзіме Паэткі, там дзе пахаваны яе вялікі дзед Павел Міклашэвіч і дзядзька Павел, дзе ўжо стаяць два помнікі Міклашэвічам, дзе яшчэ жыве сапраўдны яе духоўны нашчадак Алесь Мікалаевіч Белакоз, які пры жыцці Паэткі стварыў у Музеі яе экспазіцыю. Ён і знойдзе месца для Помніка Ларысе Геніюш і будзе яго берагчы.

Пра Гудзевічы Паэтка напісала цудоўныя вершы. У гэтым краі яе любілі, паважалі, называлі хораша Лорачкай, наша Лорачка.

У Зэльве Ларыса Антонаўна дажывала, як у зоне. Там прадаўжаўся яе ГУЛАГ. На волі, але ў зоне. Толькі што калючы дрот быў невідочны, умоўны. Толькі што хадзілі людзі, якія настолькі былі маральна і духоўна слабыя, што не заўважалі няволі, бо і не ведалі, а што такое воля. Ларыса Антонаўна ведала. Яна лётавалася над імі, бо гэта ж — Яе людзі, людзі Яе Краю. Іншага яна не магла мець, чужыны яна не перанесла б, таму і не ўцякла з Прагі на чужыну, калі трэба было самой рабіць выбар. Выбар зрабілі за яе — ворагі.

У Зэльве ёсць помнік Ларысе Геніюш на яе магіле. Той сціплы бюст вельмі добра стане ў вёсцы. А Беларусь праз дзесяцігоддзі створыць добрыя помнікі ўсім сваім Паэтам, калі Беларусь будзе.

Няўжо пад старасць людзі тупеюць і забываюць тое, пра што забываць нельга? Міша Чарняўскі забыўся пра той драўляны ганачак,на якім мы з ім у дождж успаміналі Яе па Яе смерці? Навошта было марнаваць той ганачак зэльвенцам, калі яны людзі? У хаціне Яе яны ўсё перарабілі, каб следу не засталося. Бедная Зэльва, у яе з жыллём так дрэнна, што трэба было як мага хутчэй з Яе жылля рабіць гарадскія кватэры!

Паставіць помнік у Зэльве — гэта даць магчымасць далей ім збыткавацца з Яе светлага таленту. Там жа кіруюць тыя самыя або іх дзеці.

*Данута Бічэль-Загнетава*

## Заява ~~Рэспубліканскай рады~~ Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

З 1994 года, а асабліва пасля майскага рэферэндуму 1995 года у нашай краіне ўзнавіўся націск на ўсё беларускае. На вялікі жаль, кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь патурае разбурэнню таго, што ўдалося зрабіць у першыя гады суверэнітэту для выратавання роднай культуры, для падтрымкі кволых парасткаў дзяржаўна ўзноўленай Беларушчыны.

Беларускія дзіцячыя садкі і школы знішчаюцца нібыта "па жаданні бацькоў", пад дэмагагічным лозунгам ледзь ці не абароны правоў чалавека. Скарочваецца выпуск беларускіх кніг. Пераводзяцца на расейскую мову перадачы тэлебачання і радыё. Мова карэннага насельніцтва практычна не гучыць у дзяржаўных установах.

Падзеі вакол Беларускага гуманітарнага ліцэя на працягу двух гадоў (летась — спроба высялення, сёлета — зліцця з ліцэем Белдзяржуніверсітэта) відавочна дэманструюць сапраўдныя адносіны кіраўнічага чынавенства да беларускамоўнай адукацыі. Настойлівае жаданне ліквідацыі, а менавіта гэтым з'яўляецца надпарадкаванне яго расейскамоўнаму ліцэю пры БДУ, паказвае, што сёняшнія ўлады ў сваіх дзеяннях кіруюцца зусім не жаданнем бацькоў і дзяцей, а антыбеларускімі палітычнымі памкненнямі.

Беларускі гуманітарны ліцэй — адзіная ў краіне беларускамоўная навучальная ўстанова, якая да таго ж дае адукацыю высокага еўрапейскага ўзроўню. 90% выпускнікоў ліцэя паступае у ВНУ Беларусі і замежных краін. Ліцэй карыстаецца заслужаным аўтарытэтам у грамадстве. Прыём навучэнцаў у яго адбываецца на аснове конкурсу, які дасягнуў у мінулым годзе 5 чалавек на месца.

Спроба ліквідацыі ліцэя нічым не апраўданая і выклікае законны пратэст. Вучні, іх бацькі і настаўнікі ўсімі даступнымі ім канстытуцыйнымі метадамі бароняць родную навучальную ўстанову. І мы разумеем іх і цалкам падтрымліваем.

Таварыства беларускай мовы патрабуе захавання Беларускага гуманітарнага ліцэя, забяспечэння яго нармальнай працы і развіцця.

## "Страчаная спадчына"




У Менску ў выдавецтве "Полымя" выйшла кніга "Страчаная спадчына". Наклад 3000 асобнікаў. Фармат 60х90. 352 старонкі. Аўтары Т. Габрусь, А. Кулагін, Ю. Чантурыя, А. Квітніцкая, М.Ткачоў. Кніга знаёміць з больш, чым сотняю помнікаў дойлідства Беларусі, знішчаных часам, войнамі і бальшавікамі. Гэта фундаментальны збор, і газета "Наша слова" па меры магчымасцяў будзе друкаваць артыкулы з гэтай кнігі.

## ЗАЯВА

**Выканкаму Цэнтральнай Рады БСДГ**

Беларуская Сацыял-дэмакратычная Грамада выказвае пратэст супраць чарговай спробы ўладных структур знішчыць адзін з апошніх астраўкоў беларускасці ў рэспубліцы — Беларускі гуманітарны ліцэй. На гэты раз выбраны новы "падыход" — праз аб'яднанне з расейскамоўным ліцэем пры БДУ. Арганізатары гэтай ганебнай акцыі агульнавядомыя. Іх не спыняе нават адказнасць за парушэнне канстытуцыйных правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Выканкам ЦР БСДГ выказвае сваю салідарнасць з навучэнцамі ліцэю і іх бацькамі, выкладчыкамі Беларускага гуманітарнага ліцэя ў іх барацьбе за права атрымліваць адукацыю на роднай мове.

Рукі прэч ад ліцэю!





МІТРАПАЛІТ  ІЗЯСЛАЎ
З БОЖАЕ ЛАСКІ ПЕРШАГЕРАРХ
БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ
ПРЫВІТАННЕ
Годнаму Гонару Духавенству і Любым Вернікам
ды Ўсім Праваслаўным Беларусам у Духоўным і Свецкім Стане,
што да Свае Роднае Праваслаўнае Царквы імкнуцца,
з 50-мі ЎГОДКАМІ ЎЗНАЎЛЕННЯ ДЗЕЙНАСЦІ
БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ:

## Любыя праз Хрыста Браты і Сёстры!

Пяцьдзесят год назад, у дзень памяці Святое Ефрасінні, Князёўны Полацкае, 5 чэрвеня 1948-га году, у нямецкім горадзе Канстанцы адбыўся з'езд, або, інакш кажучы, Сабор беларускіх праваслаўных вернікаў і духавенства, што ўзнавіў дзейнасць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы за межамі роднага Краю.

Узнаўленне гэтае дзейнасці стала неабходным пасля таго, як два гады раней чужы паводле перакананняў япіскапат здрадзіў ухваленую ў жніўні 1942-га года на Ўсебеларускім Саборы ў Менску аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы і перайшоў у варожую юрысдыкцыю.

Збылося ж яно дзякуючы згодзе сястрыное Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы дапамагчы ўзнавіць беларускі япіскапат, першагерархам якога стаў часова адпушчаны дзеля гэтае мэты св. пам. Архіяпіскап Сяргей (Охотэнко).

Следам за Саборам у Канстанцы быў усвечаны непахісны ў Праваслаўнай Веры ды патрыятычных пачуццях першы беларускі япіскап Васіль (Тамашчык), а пазней і іншыя.

Пад кіраўніцтвам свайго япіскапату ўзнавіла пастырскую дзейнасць і частка ранейшых, ды былі ўсвечаныя новыя святары БАПЦ і, гэткім чынам, духовай апекай роднае Праваслаўнае Царквы была абнятая вялікая частка пасляваеннае беларускае эміграцыі ў вольным свеце.

Слаўная падзея, 50-я ўгодкі якое сёння адзначаем, важная, аднак, не толькі дзеля выніклых з яе царкоўна-арганізацыйных асягненняў, але, перш за ўсё, дзеля ейнае духовае велічы і сімвалічнага значэння.

У ёй, бо, выявілася і збылося народжанае яшчэ ў пору даўніх княстваў ды ўзрослае ў нашай магутнай задзіненай дзяржаве, Вялікім Княстве Літоўскім,пераказванае з пакалення ў пакаленне імкненне нашага народа займець верную Божым наказам ды спрыяльную яму, а не чужым інтарэсам, Праваслаўную Царкву.

Змаганне за ўжыццяўленне гэтага імкнення, уздымалася не аднойчы на працягу нашае гісторыі ды за кожным разам, не асягнуўшы мэты, было перамаганае варожымі сіламі.

Перамогі варожых сілаў не зламалі, аднак, волі нашага пабожнага народа і, як толькі ягонай частцы пашчасціла выйсці ў вольны свет, яна ў першую чаргу ўзнавіла дзейнасць свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Гэтае ўзнаўленне адбылося не з ласкі кіраваных палітычнай каньюктурай нянаскіх царкоўных вяльможаў, а, перадусім, праз ахвярнасць лепшых сыноў нашага народа, што, не зважаючы на цяжкасці і небяспекі, узнялі на іхнія плечы крыж архіпастырскага і пастырскага служэння, ды тых вернікаў і верніц, што праз усе нягоды гэты крыж несці ўспамаглі.

А той крыж даводзілася і даводзіцца несці пакутніцкай дарогай, бо адвечныя ворагі дасюль ня спынілі іхніх намаганняў "паразіць пастыраў і расцярушыць авец", а кіраўнічыя беларускія незалежніцкія дзейнікі не дараслі яшчэ, каб бачыць у Царкве, замест паслухмянае выканальніцы іхных захацяў, натхняльную духовую сілу на адраджэнне нашага народа.

Затое пабожныя праваслаўныя патрыёты на Бацькаўшчыне сілу свае Праваслаўнае Царквы разумеюць і пачынаюць рабіць першыя крокі, каб узнавіць там родную ім Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

Гэткім чынам настае вызначаная Богам ды ўсімі намі чаканая, пара, калі нашая Царква, ператрываўшы паўстагоддзя цяжкіх выпрабаванняў на чужыне, але захаваўшы нязгаслы зніч аўтакефаліі, або царкоўнае незалежнасці ад усялякіх вонкавых дзейнікаў, верне яго на Бацькаўшчыну.

Верне яго, не каб абняць там уладу, але , каб асьвятляў ён сэрцы і розумы вернікаў ды натхняў іх на ажыўленьне цела роднае Царквы ў Краі, што будзе служыць Богу і Бацькаўшчыне ды часткаю Якое Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, што дзее за мяжою, была і застаецца.

Пазнакі набліжэння пары радаснага вяртання нашае Царквы да жыцця ў Краі, ды з чужыны і пабуджаюць мяне прывітаць Вас, Любыя праз Хрыста Браты і Сёстры, з 50-мі ўгодкамі падзеі, што была пачаткам гэтага вяртання.

Праз 50 год, што пасля яе зыйшлі, шмат было асягнута, каб гэтае вяртанне, або ўзнаўленне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне зрабіць магчымым, але і нямала чаго засталося някранутым, або і было страчанае.

Вітаючы Вас сёння з слаўнымі ўгодкамі, я разам і заклікаю не здавольвацца здабытым, а працаваць і змагацца за далейшыя дасягненні.

Пачынальнікаў узанўлення Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне клічу не спыняць змагання за нашую, дагодную Богу, Справу ды асцерагаю ад пасткаў супрацоўніцтва з цяперашняй царкоўнай уладай, якія гэтая апошняя пачала ставіць.

Пабожных і патрыятычна настроеных суродзічаў за межамі роднага Краю заахвочваю засноўваць малітоўныя грамады, ці парафіі БАПЦ, бо толькі гэткія згуртаванні забяспечваюць выжыванне беларускіх асяродкаў у чужым наваколлі.

А да вернікаў БАПЦ у Ейных парафіях і праваслаўных беларусаў у Заходнім свеце звяртаюся з заклікам шчыльней згуртавацца вакол свае Царквы, больш ахвярна дапамагаць Ёй і працаваць на Ейную карысць,ды падтрымоўваць справу Ейнага ўзнаўлення на Бацькаўшчыне.

Гэтак, во, разам дзеючы, мы і асягнем мэту ўзнаўлення вернае Божым наказам ды спрыяльнае патрэбам нашага Народу Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, да якое імкнуліся пакаленні нашых папярэднікаў, ды завяззю якое быў Сабор у Канстанцы, 50-я ўгодкі якога цяпер адзначаем.

Няхай жа наш Збавец Ісус Хрыстос, праз малітвы Божае Маці і Святых Беларускае Зямлі, дае Вам Ягоныя шчодрыя Ласкі і мае Вас у апецы, ды памагае Вам праз жыццёвыя ўдачы служыць Яму і вернай Яму Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Сцеражы, Божа, Беларускі Край!

Першагерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.
Замежжа, Чэрвень Божага Лета 1998-га.

# Бенядзікт Дыбоўскі пра беларускаю мову ў Сібіры

Бенядзікт Дыбоўскі, ураджэнец маёнтка Адамарын Вілейскага павету Менскай губерні, які за ўдзел у паўстанні 1863 - 1864 гг. трапіў у Сібір, успамінаў: "Парабак "поселенец", г.зн. сасланы сюды на пасяленне, у падраным адзенні, які меўся быць нашым фурманам, здымае хамуты з "полатий" і збіраецца запрагаць коней. ("Полати" гэта ляжанкі пад столлю , уладжаныя насупраць печы ды ўваходных дзвярэй). Адразу за вёскай псуецца вупраж. Затрымліваемся на хвіліну. Я высаджваюся частую "ямщика" папяросамі, якія стала маю пры сабе і пытаю нашага "поселенца" ці не з'яўляецца ён часам "беглым" з катаржных працаў у Нерчынскіх капальнях. "Не — адказвае ён, - я родам з Менскай губерні і сасланы на пасяленне ў Заходнюю Сібір". Такім чынам я вітаю "зямляка" (г.зн.Ziomka")" — сказаў я. Спытваю пра прозвішча і за якія правіны апынуўся тут? "Па няшчасці", — быў лаканічны адказ, — а прозвішча маё Парымкевіч". Затым пытаю ці гаспадар п'е ? "О, калі б не піў меўся б добра , але што, калі увесь заробак ідзе да шынка". Па направе вупражы, звязанай вяроўкамі, мы рушылі далей ... Я запрасіў пасяленца, майго новага зямляка з Менскай губерні, які нас вёз, на гарбату. Аднак запросінаў ён не прыняў, адказваючы, "што гаспадар накорміць і напоіць". Я даў пасяленцу два залатых за тое, што вёз нас, раючы каб не піў, бо гэтае піццё ёсць найвялікшае няшчасце на свеце, бо п'янства, нават памяркоўнае, губіць чалавека. "Будзь цвярозым, пачцівым, ашчаджай, збірай грош да гроша і вяртайся да краю, старайся каб людзі мелі добрую думку аб Менскай губерні". Мой новы зямляк пасяленец быў маладым чалавекам, нядаўна прыбыў у Сібір, а ўжо набыў акцэнт і чыста сібірскаўія звароты мовы. Увогуле г.зн. "беларуская" мова нідзе не ўтрымалася на Сібіры. Адно што толькі захавалі беларусы ў Сібіры, разам з палякамі, дык гэта просты, сіметрычны на абодва бакі, каўнер ад кашулі, а не гэтак званы маскоўскі "косой воротник". Для мяне асабіста шкада беларускай мовы, якая не вытрымлівае канкурэнцыі з сібірска-расейскай. Я люблю гэтую простую наіўную гаворку, якая лапідарным спосабам выказвае часта глыбокія думкі, поўныя натуральнага дасціпу, але затое мне агідны кніжны, нібыта беларускі, "валянук", сфабрыкаваны зараз Дон-Кіхотамі з Беляхіі. Адзіны цяпер спосаб каб ўратаваць "беларускую" мову ад пагібелі гэта перапісваць пры дапамозе фанаграмы з адзінай добрай крыніцы, вуснаў векавых кабет, увесь шэраг чыстых беларускіх зваротаў і праўдзівых выразаў, бо малодшае пакаленне, нават дзяўчыны, сказілі сваю мову дамешкаю выразаў і зваротаў казённае мовы. Усе расейскія ўрадаўцы пагарджаюць беларускай мовай. Даўней мясцовыя чыноўнікі і вуніяцкае духавенства, якое паходзіла з беларускага краю, размаўлялі з народам на ягоным нарэччы. Цяперашнія чыноўнікі і духавенства, прысланае з-пад цёмнай зоркі, уважаюць за абразу ўласнай годнасці вучыцца размаўляць па беларуску.

Гэтак сама і народ паволі пачынае лічыць сваю мову не вартай вуснаў людзей вышэйшага класу; "мужыцкий язык" гавораць і ім ужо размаўляць саромеецца".

Далей Б.Дыбоўскі піша: " Даведаўся я таксама аб лёсах Рузіна, арыгінальнага чалавека, ад якога калісьці мы спадзяваліся вялікіх рэчаў. Рузін, народжаны на Лене, паходзіў з сялянскай сям'і. Ён навучыўся чытаць ад сасланага паляка, далей абвучаўся сам, а потым служыў работнікам на залатых капальнях, тут ён пазнаёміўся з палякамі, у іхнім таварыстве, з нязвыклаю заўзятасцю заняўся навукамі, асабліва грамадскімі і пачаткамі геалогіі. Шмат чытаў. Пры нязвычайных здольнасцях да матэматыцы, адораны фенаменальнай памяццю, ён стаў загадчыкам на капальнях, а затым начальнікам экспедыцыі, якая была выслана для пошука золата. З-над Лены і Алёкмы ён патрапіў на Амур, а потым у г.зв. Усурыйскі край. Там я і пазнаёміўся з ім, калі з пошукнай партыяй ён завітаў на бераг мора ў затоку Абрэк. Жыў ён якісьці час ва Уладзівастоку. У гэтым горадзе тады была настаўніцай у школе маладая дзяўчына расіянка, прысланая з Іркуцка. Рузін пазнаў яе, ажаніўся і ў той жа дзень па службе адплыў да Амерыкі. Потым праз год дайшлі адтуль слухі, што ён быў забіты выпадковым стрэлам з рэвальверу. Я ж лічу, што гэта выдумка, і ён сам пусціў у абыходак гэтую чутку, што забіўся, каб вызваліць сваю жонку ад вузаў замужаства." [Dk.B.Dybowski "O Syberyi i Kamczatce" Czasc I. Podvoz Z "Wavszawy na Kamczatke", w-wa, kr., b.d., S - 133 - 135; 506]

Неўзабаве Б. Дыбоўскі ўдакладняе: "Што да самога Рузіна, то паводле майго меркавання, ён быў з паходжання не расейцам, а русінам, ці беларусам або белапалякам. На Сібіры маларосаў завуць "хахламі", а беларусаў "русінамі". Увогуле Усходняя Сібір густа заселена русінамі. Назва русін магла змяніцца на рузін — адтуль гэтае яго імя. Потым філантрапія Рузіна увогуле чужая расейцам чыстай крыві, — і гэта другая матывацыя, з прычыны якой я не магу залічыць Рузіна да расейцаў, сапраўдных "косоворотников". [Pamietnik Dva Bentdykta Dybowskieqo od roku 1862 zaczawszy do roku 1878" Lwow 1930, s - 537]

*Алесь Баркоўскі*

### Дыбоўскі Бенядзікт Іванавіч (29.4/11.5/.1833 -31.1.30)

Прыродазнавец заолаг і лекар. Член-карэспандэнт АН СССР (1928). Нарадзіўся ў маёнтку Адамарын Вілейскага павету Менскай губерні. Вучыўся ў Менскай гімназіі. Медыцыну і прыродазнаўчыя навукі вывучаў у Дэрпце (Тарту), Браславе (Вроцлаў) і Берліне, дзе ў 1860 годзе атрымаў ступень доктара медыцыны. З 1862 года экстраардынарны прафесар заалогіі і палеанталогіі ў Варшаве. За ўдзел у нацыянальна-вызвольным паўстанні ў 1864 годзе асуджаны на 15 гадоў катаргі.

Сасланы ў Сібір. Але і там ён працягваў навуковую дзейнасць: даследваў жывёльны і раслінны свет возера Байкал, рэк Амур і Ангара, узбагаціў заалогію шэрагам новых адкрыццяў.

У 1877 вярнуўся на радзіму. Неўзабаве, маючы намер вывучаць Камчатку, пасяліўся ў Петрапалаўску - Камчацкім, дзе займаў пасаду лекара. З 1882 года прафесар заалогіі ў Львове. Тут ён арганізаваў музей заалогіі з камчацкіх экспанатаў. Вывучаў беларускія азёры Любань, Свіцязь, Чорнае і інш. Яго шматлікія артыкулы па заалогіі надрукаваны ў расейскіх, польскіх, нямецкіх часопісах. Паводле светапогляду Дыбоўскі быў рэвалюцыйным дэмакратам, у поглядах на прыроду - матэрыялістам. Змагаўся супраць рэлігійных забабонаў, клерыкалаў і розных рэакцыянераў. Ён адзін з першых у Еўропе стаў прыхільнікам і прапагандыстам эвалюцыйнай тэорыі Ч.Дарвіна. У сваіх працах і лекцыях даказваў, што жывёльны і раслінны свет развіваюцца на натуральных законах.

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 6. 07. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 1673.
***Падпісны індэкс:*** 63865
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.